*Інфармацыя Аналітыка Публіцыстыка*

**№30 кастрычнік 2013**

# ПРЭЗУМПЦЫЯ

***Гарадзенскі праваабарончы інфармацыйна-аналітычны бюлетэнь***

## III Беларускі праваабарончы форум прайшоў у Вільні



***Да ўдзелу ў Форуме былі запрошаны прадстаўнікі беларускіх праваабарончых арганізацыяў, міжнародныя і замежныя праваабарончыя структуры. У час форуму абмяркавалі сітуацыю ў праваабарончым руху, стан правоў чалавека ў Беларусі і на постсавецкай прасторы, магчымую стратэгію дзеянняў беларускіх праваабаронцаў.***

***На адкрыцці форума сябра «Вясны» Тацяна Рэвяка адзначыла, што праваабарончы рух у Беларусі «развіваецца і пашыраецца». Паводле яе, доказам гэтага стаў склад удзельнікаў: цяперашні форум сабраў больш за 110 дэлегатаў з 25 арганізацыяў і ініцыятываў, якія маюць дачыненне да праваабарончай дзейнасці.***

## Гародня: “цынічная” адмова гарвыканкаму ў правядзенні пікету



Гарадзенскі гарвыканкам чарговы раз не даў дазволу грамадскім праваабаронцам Віктару Сазонаву, Уладзіміру Хільмановічу і Раману Юргелю правесці інфармацыйны пікет. Заяўнікі хацелі 10 кастрычніка ў сусветны дзень змагання супраць смяротнага пакарання інфармаваць жыхароў гораду над Нёманам пра сітуацыю наконт гэтага ў Беларусі.

Сітуацыю каментуе адзін з заяўнікаў Уладзімір Хільмановіч: “На гэты раз адмова “выпісана” з асаблівым цынізмам, гарвыканкам чарговы раз парушае нашы канстытуцыйныя правы як грамадзянаў Рэспублікі Беларусь. Іншага, канешне, і чакаць не даводзілася. Калі на нядаўнім судовым працэсе, дзе разглядалася наша скарга на аналагічнае рашэнне выканкаму і суддзя і пракурор не звяртаюць увагі на відавочныя парушэнні з боку выканаўчай улады, то гэтыя чыноўнікі і далей дыскрымінуюць грамадзян і прымаюць такія палітычныя, а значыць незаконныя рашэнні”.

## Крымінальная справа супраць Аляксея Шчадрова закрыта



Стала вядома, што крымінальная справа, якая была ўзбуджана ў гэтым годзе Шчучынскай раённай міліцыяй супраць верніка-дабрачынца Аляксея Шчадрова, у верасні спынена. Згодна з пастановай яму на дадзены момант не пагражае адказнасць паводле артыкулу 193.1 Крымінальнага кодэксу (дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі). Хрысціянскі вернік спадзяецца зараз, што ніхто не будзе замінаць яму займацца дабрачыннай дзейнасцю, паколькі за апошнія месяцы яму з дапамогай розных праваабарончых арганізацый яму ўдалося зарэгістраваць прыватную сацыяльную ўстанову “Павер у сябе”.

Нагадаем, што ў вёсцы Аляксандраўка Шчучынскага раёну Аляксей Шчадроў стварыў прытулак для сацыяльна абяздоленых і нямоглых. У чэрвені бягучага году яго звінавацілі ў тым, што ён арганізаваў дзейнасць незарэгістраванай рэлігійнай арганізацыі і забяспечыў умовы яе функцыянавання без рэгістрацыі ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

## Праваабарончы цэнтр “Вясна” вітае Паўла Севярынца на волі!



19 кастрычніка сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" (БХД) палітвязень Павел Севярынец вызвалены са спецкамендатуры № 7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна Брэсцкай вобласці, дзе адбываў трохгадовае пакаранне за ўдзел у падзеях 19 снежня 2010 года.

Павел Севярынец, які падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў кіраваў выбарчым штабам кандыдата на пасаду кіраўніка дзяржавы ад БХД Віталя Рымашэўскага, адбываў трохгадовае пакаранне за ўдзел у падзеях 19 снежня 2010 года. Яго арыштавалі ў ноч на 20 снежня на выхадзе з плошчы Незалежнасці. Пяць месяцаў пасля арышту Севярынец правёў у следчым ізалятары КДБ.

У маі 2011 года суд Заводскага раёна Мінска прызнаў яго вінаватым на падставе ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса (арганізацыя і падрыхтоўка дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак, або актыўны ўдзел у іх) і прыгаварыў да трох гадоў абмежавання волі ў Куплінскай спецкамендатуры № 7.

## Акцыя салідарнасці з палітвязнямі ў Кіеве



У Кіеве адбылася акцыя салідарнасці з палітычнымі вязнямі Украіны і Беларусі. Арганізатарамі мерапрыемства выступілі Камітэт вызвалення палітвязняў і Рух Салідарнасці "Разам", актывісты якога прыехалі ў Кіеў з Беларусі. На Майдане Незалежнасці прайшоў пікет у падтрымку украінскіх і беларускіх палітвязняў. Пасля заканчэння акцыі ўдзельнікі адправілі паштоўкі палітвязням.

## III Беларускі праваабарончы форум у Вільні



26 кастрычніка адкрыўся III Беларускі праваабарончы форум у Вільні. Адкрыла форум Таццяна Рэвяка, прэзідэнт Беларускага Дома правоў чалавека, сябра Рады Праваабарончага цэнтра "Вясна".

На форуме выступіла жонка палітвязня Алеся Бяляцкага Натальля Пінчук

Алесь Бяляцкі быў ініцыятарам І Беларускага праваабарончага форума, які адбыўся зімой 2004 года пад Менскам, у амаль падпольных умовах. Цяпер Алесь Бяляцкі - палітвязень: з 4 жніўня 2011 года ён знаходзіцца за кратамі ў Бабруйскай калоніі за праваабарончую дзейнасць.

# Алімпійскі fиckел

***Прэзідэнт усяе Расеі Уладзімір Пуцін днямі ўласнаручна падпаліў факелам алімпійскую чашу, ад якой павінен праз нейкі час разгарэцца агонь сочынскіх зімовых гульняў. Белая алімпіяда ў Сочы, дзе вельмі цёплыя нават цёмныя ночы, ужо пабіла ўсе рэкорды яшчэ задоўга да яе пачатку. Па-першае, сваімі агромністымі выдаткамі на будаўніцтва спартовых аб'ектаў. Па-другое, тым, што для іх узвядзення спатрэбілася зруйнаваць ледзь не палову мірнага гораду над морам. Пра тое, якія схемы, камбінацыі і "адкаты" пры тым былі выкарыстаны, ходзяць легенды, ды такія, што ніякаму старажытнагрэцкаму Алімпу і не сніліся.***

Старт алімпійскай эстафеты на Краснай Плошчы не абышоўся без казусу – газпромаўскі факел нечакана згас ужо пасля першай яго перадачы – кепская прыкмета ў дарогу паводле рускіх народных павер'яў. Але ахоўнікі прэзідэнта і парадку не разгубіліся, адзін з квадратнатварых дзецюкоў высек іскру проста з сваёй запальнічкі, і полымя ўспыхнула з новай сілай. Праўда, цяпер злыя языкі вастрасловяць – агонь, маўляў, ужо зусім не алімпійскі, дык можа і "царь ненастоящий"!?

Спорт у Маскве яшчэ з часу СССР быў надзвычай палітызаваны. Ну а цяпер, як ніколі. Нездарма ў дзяржаўную думу з чырвоных стадыённых дарожак так актыўна перабягаюць на чырвоныя дываны парламенцкіх калідораў былыя чэмпіёны. Канькабежка Святлана Журава, тэнісіст Марат Сафін, барэц Аляксандр Карэлін, баксёр Мікалай Валуеў – аж вочы стракацяць. Усе яны ўсёй душой адданыя галоўнаму алімпійцу краіны. А славутая гімнастка Аліна Кабаева, як сцвярджаюць злыя медыі, адданая яму яшчэ больш.

Іншы баксёр Аляксандар Паветкін, член Патрыяршага савету па культуры мусіў узняць рускі дух на нябачную дагэтуль вышыню – для гэтага ў маскоўскім комплексе "Алімпійскі" ён збіраўся пабіць сусветнага чэмпіёна з Украіны Уладзіміра Клічко. Сабраліся тут усе. Некалі таленавіты рэжысёр, а цяпер высокі саноўнік, Нікіта Міхалкоў амаль ролю секунданта выконваў. Знакаміты спявак Іосіф Кабзон,



самы багаты дэпутат той жа думы, выканаў гімн, пад які ў галаве, як бы яны там не перастаўлялі і мянялі словы, плыве адно – "Союз нерушимый республик свободных сплотила навеки великая Русь". А прэтэндэнт на тытульны пас выйшаў на рынг пад песню ў гонар паганскага бога Сварога. Цяжка зразумець чаму член праваслаўнага Патрыяршага савету выйшаў на публіку ўвесь у татуіроўках старажытных рунаў. Язычніцкія наколкі не памаглі Паветкіну. Але трэба аддаць належнае "Рускаму віцязю" – ён пратрымаўся да канца паядынку. А пасля высветлілася, што баксёр не так даўно развітаўся з традыцыйным праваслаўем і вярнуўся да народных вытокаў – язычніцкіх. Вось гэтая загадкавая – ні то славянская, ні то фіна-вугорская душа – дзе ж нам зразумець яе!?

Вось яшчэ адзін прыклад. Ведамы расійскі мецэнат праваслаўя Канстанцін Суслаў, ён жа другая асоба ва ўрадзе Калінінградскай вобласці, ён жа ўладальнік заводу па вытворчасці традыцыйных алкагольных напояў будзе зараз выпускаць гарэлку пад назвай "Stalinskaya". Логіка дабрачынца і асобы набліжанай да патрыярха, некалі мітрапаліта Калінінградскага і Смаленскага напэўна такая – Сталін жа таксама некалі вучыўся ў праваслаўнай семінарыі, значыць і гарэлка з такім брэндам можа быць. А тое, што вусаты "бацька народаў" фізічна і маральна знішчыў мільёны нявінных людзей, відаць, не ў лік. Гібель мільёнаў паводле яшчэ адной традыцыі – у іх заўсёды толькі статыстыка. А можа гэта такое пасланне ненавіснаму Захаду, бо гарэлка найперш пойдзе на экспарт!?

Зараз у некаторых кутках планеты загаварылі пра магчымы байкот алімпійскіх гульняў. Але ўжо позна. Пуцінскай Расіі не страшны ніякі байкот. Ім было важна атрымаць права на правядзенне алімпіяды. А далей хоць алімпійскі агонь, хоць сусветны патоп. Тым больш, што Расія і так – даўно чэмпіён свету, хай сабе і ў неалімпійскіх відах – скачках назад, стральбе па журналістах, барацьбе пад дываном, падводным атручванні акіяна… Масква ўжо "ўставіла" МАКу свой факел. У Маскве перакананыя, што ўхапілі алімпійскіх багоў за бараду.

*Уладзімір Хільмановіч*

# Хроніка правапарушэнняў

## *Гарадзеншчына, верасень - кастрычнік*

## Крымінальныя справы супраць актывістаў грамадзянскай супольнасьці;

***23 верасьня ў Ленінскім раённым судзе Гародні прайшоў працэс закрыцця крымінальнай справы Андрэя Пачобута, справу разглядаў і аформіў суддзя Юрый Казакевіч. Публіцыст Андрэй Пачобут вызвалены ад адбыцця пакарання ў звязку з тым, што ён не парушыў заканадаўства. Журналіст паводле пачатай крымінальнай справы да сёння адбываў прысуд з адтэрміноўкай паводле артыкулу за нібыта паклёп на Аляксандра Лукашэнку.***

***Цягам апошніх месяцаў разнастайная дапамога аказвалася Аляксею Шчадрову, жыхару Шчучынскага раёну супраць якога была пачата крымінальная справа паводле артыкулу 193.1 Крымінальнага кодэкса (дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі). У выніку ўдалося зарэгістраваць дабрачынную сацыяльную ўстанову як грамадскую арганізацыю. Крымінальную справу спынілі яшчэ ў канцы верасня. Дакументальнае пацверджанне гэта атрымала ў кастрычніку.***

## Іншыя формы пераследу, дыскрымінацыі і парушэння заканадаўства з боку ўладаў

**4 верасьня** гарадзенская арганізацыя партыі БНФ атрымала адмову на правядзенне 8-га верасня пікета з нагоды Дня беларускай вайсковай славы і размяшчэння расейскіх паветраных сілаў на беларускай тэрыторыі.

**8-9 верасьня** ў Гародні недалёка ад рынку “Дзевятоўка” мясцовымі ўладамі было спілавана больш за 30 маладых дрэваў. Працягваецца палітыка вынішчэння дрэваў, якая ўпарта вядзецца ўжо цягам дзесяці апошніх гадоў на тэрыторыі усёй Гарадзенскай вобласці.

**5 кастрычніка** Гарадзенскі гарвыканкам чарговы раз не даў дазволу грамадскім праваабаронцам Віктару Сазонаву, Уладзіміру Хільмановічу і Раману Юргелю правесці інфармацыйны пікет. Заяўнікі хацелі 10 кастрычніка ў сусветны дзень змагання супраць смяротнага пакарання інфармаваць жыхароў гораду над Нёманам пра сітуацыю наконт гэтага ў Беларусі, але ім адмовілі ў гэтым праве.

## Абарона грамадзянскіх і палітычных правоў грамадзян Беларусі з боку гарадзенскай філіі;

Актывісты аддзялення трымалі пад кантролем усе судовыя справы, якія адбываліся цягам гэтага перыяду ў вобласці, якія датычыліся дзейнасьці грамадзкіх актывістаў прысутнічалі ў судах на розных разглядах справаў. Даваліся кансультацыі і рэкамендацыі тым, каго пераследавалі ў гэтыя месяцы. Было арганізавана некалькі выездаў з мэтай юрыдычных кансультацый тым, хто ня мог прыехаць у Гродна – у Слонім, Мастоўскі раён, Дзятлаўскі раён, горад Скідзель.

**12 верасня** ў судзе Ленінскага раёна прайшлі папярэднія слуханні паводле скаргі гарадзенскіх грамадскіх праваабаронцаў Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча і Рамана Юргеля на рашэнне гарвыканкама аб забароне пікету ў падтрымку Алеся Бяляцкага. У выніку судовы разгляд грамадзянскай справы быў прызначаны на 23 верасня.

**23 верасня** прайшоў разгляд скаргі гарадзенскіх праваабаронцаў на рашэнне Гарадзенскага гарвыканкаму, якім было забаронена правядзенне ў горадзе інфармацыйнага пікету ў падтрымку палітзняволенага Алеся Бяляцкага. У выніку разгляду грамадзянскай справы суддзя Ленінскага раённага суду Жана Краўчанка, нягледзячы на парушэньні заканадаўства з боку гарвыканкаму, не задаволіла калектыўную скаргу Віктара Сазонава, Уладзіміра Хільмановіча і Рамана Юргеля.

25 верасня гарадзенскія праваабаронцы Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч і Раман Юргель падалі новую заяўку ў мясцовы гарвыканкам на правядзенне інфармацыйнага пікету. Заява пададзена на 10 кастрычніка бягучага году – у Сусветны дзень змагання супраць смяротнага пакарання

**24 кастрычніка** Слонімскі раённы суд разгледзеў скаргу слонімскага грамадскага актывіста Алеся Масюка, у якой ён прасіў прызнаць незаконным і адмяніць рашэнне райвыканкама пра забарону правядзення пікету ў абарону чытачоў і падпісчыкаў “Газеты Слонімскай”. У пачатку верасня ў Слонімскі райвыканкам была пададзена адпаведная пісьмовая заява з просьбай дазволіць пікет. Аднак мясцовыя ўлады праводзіць яго не дазволілі.

## Скарочаны выступ Наталлі Пінчук на адкрыцці III Беларускага праваабарончага форума

Алесь у свой час быў адным з ініцыятараў закладання традыцыі склікання форуму праваабаронцаў, праваабарончых арганізацыяў, яго ідэйным натхніцелем і актыўным удзельнікам - да таго часу, пакуль не быў арыштаваны і адпраўлены ў зняволенне на чатыры з паловай гады.

Дазвольце мне ад яго імені вітаць усіх вас тут, на гэтым форуме.

Больш за два гады Алесь знаходзіцца за кратамі. Менавіта такім чынам улада адрэагавала на яго актыўную грамадзянскую пазіцыю, на яго прынцыповае адстойванне правоў і свабод грамадзян Беларусі, на дапамогу, якая аказвалася пацярпелым ад рэжыму, на працу дзеля таго, каб у грамадстве было менш стратаў.

На сёння ў месцах зняволення знаходзяцца яшчэ восем палітычных вязняў. розныя назвы гэтых месцаў вызначаюць розную ступень пакарання, але не мяняюць яго сутнасці. Улада імкнулася і імкнецца ізаляваць, прынізіць, дыскрэдытаваць іх на ўсіх узроўнях і этапах увязнення і нават пасля вызвалення. Алесеў лёс паказвае, наколькі кіраўнік дзяржавы зацяты нават тады, калі, здаецца, яму было выгодна праявіць так званую міласэрнасць. Людзей, якія не падпісалі прашэнне аб памілаванні, Бяляцкага, Статкевіча, Аўтуховіча, Лобава і іншых, улада надалей імкнецца зламіць. Фізічна – калі не атрымліваецца маральна.

Наперадзе – Саміт краінаў Еўразвязу і Усходняга партнёрства тут, у Вільні. Вельмі важна пакінуць для Беларусі еўрапейскую перспектыву. Перспектыву для беларускага народу, а не для рэжыму. Рэжым, які цяпер пануе ў нашай краіне – не еўрапейскі па сваёй сутнасці. Гэта значыць, ён не падзяляе і не не падзеліць ніколі, нават напаказ, дэмакратычных каштоўнасцей.

У некаторых артыкулах і выступах у Беларусі пачала гучаць нібыта міралюбівая прапанова зняць патрабаванне поўнай рэабілітацыі палітычных вязняў. Маўляў, рэжым на гэта ўсё роўна не пойдзе. Мне ўсё ж падаецца, што, па-першае, трэба быць паслядоўнымі і, сказаўшы пра рэабілітацыю напачатку, не адступаць ад гэтай пазіцыі. Па-другое, сапраўды, без рэабілітацыі людзі, якія зараз вызваляюцца па сканчэнні тэрмінаў ды і раней, абмежаваныя ў правах. Яны маюць толькі паўсвабоду.

І яшчэ. З Алесевых настрояў, якія прачытваюцца ў ягоных няхай і цэнзураваных і самацэнзураваных лістах, а таксама ў звязку з ягонымі ўспамінамі я бачу, што ён быў бы рады, каб беларускія праваабаронцы разглядалі барацьбу за правы беларускамоўных грамадзянаў на навучанне дзяцей на роднай мове, наогул барацьбу супраць дыскрымінацыі рэжымам беларускай мовы і культуры як адну з важных задачаў. Народ з пачуццём уласнай годнасці абавязкова верне сабе свабоду. Дзякую за ўвагу.

## Скарочаны выступ Прэзідэнта FIDH на III Беларускім праваабарончым форуме

Для мяне гэта запрашэнне адначасова радаснае і сумнае. І ў любым выпадку вельмі сімвалічнае.

Больш за дзесяць гадоў таму Алесь Бяляцкі, мой сябра, арганізацыя якога Праваабарончы цэнтр "Вясна"толькі ўвайшла ў Міжнародную Федэрацыю за правы чалавека і якога ў тыя гады мы яшчэ не вельмі добра ведалі, прапанаваў FIDH падтрымаць першы форум беларускіх праваабаронцаў. Гэтая падрыхтоўка адразу задала рытм нашаму будучаму супрацоўніцтву з гэтым дзіўным чалавекам. ¨н патлумачыў нам тады, што практычна ўсе арганізацыі як раз у тыя гады былі ліквідаваныя рашэннямі судоў, што гасцініцы адмаўляліся прадаставіць памяшканне для правядзення форуму, што многія спонсары адмаўляліся ў сітуацыі, якая склалася,фінансаваць такое мерапрыемства. А таксама, што ён лічыў, што менавіта тады было неабходна правесці такое мерапрыемства, каб падтрымаць матывацыю і рашучасць праваабаронцаў, каб не даць рэжыму спыніць іх дзейнасць.

Мы памятаем, якія дыскусіі паўсталі ў Федэрацыі, калі Алесь патлумачыў нам, як мы будзем удзельнічаць у гэтым форуме. Але яго рашучасць і жаданне правесці гэта мерапрыемства нягледзячы ні на што выклікалі падтрымку, і сярод шматлікіх мерапрыемстваў, якія праводзіла Федэрацыя, мы часта ўзгадваем гэты Форум, які тады адкрываў разам з Алесем Генеральны сакратар FIDH. Гэта быў першы і апошні форум, які арганізатары змаглі правесці ў самой Беларусі. У нас ад яго засталосяўражанне такое ж сумнае і цёмнае ў чымсьці, як і часы, якія перажывала ў той момант Беларусь. Праваабаронцы павінны былі сустракацца ў лясах, у катэджы, які быў зняты на падставе сямейнай падзеі, удзельнікі прыязджалі нейкіміабыходнымі дарогамі, і форум быў афіцыйна адкрыты толькі калі змаглі прыехаць амбасадары і прэса. Для замежных удзельнікаў усё было даволі экзатычна ў гэтым вельмі дрэнна ацяпляным цемнаватым памяшканні. І тым не менш, рашучасць, якая аб'ядноўвала ўсіх удзельнікаў для абароны правоў чалавека, была такая ж, як і ў нас.

Хто з нас тады мог меркаваць, што нават гэтая сустрэча, паўлегальная, была толькі адным з этапаў доўгай серыі новых рэпрэсій, новых парушэнняў рэжымам самых фундаментальных правоў чалавека - права на асацыяцыю, на свабоду сходаў, на выказванне меркаванняў.

Не выпадкова, што палітычныя зняволеныя, пра крытычную сітуацыю якіх FIDH увесь час гаворыць на міжнародным узроўні, сёння працягваюць быць ахвярамі здзекаў і розных парушэнняў іх правоў нават у турме. Нават знаходзячыся ў зняволенні, яны застаюцца сімвалам свабоднай краіны і грамадзянаў гэтай краіны, якія змагаюцца за свае правы. Будзь гэта праваабаронца Алесь, ці прадстаўнікі палітычных партый, ці маладыя анархісты - усе яны ахвяры залежнага правасуддзя і няправільных судовых разбіральніцтваў.

Мне б хацелася, каб вы ведалі, што мы падзяляем і вашыя надзеі і вашае непрыманне таго, што прыняць нельга, вашае абурэнне. І мы б хацелі, каб вы ведалі, што мы паўсюль, дзе можам, на ўсіх застаўшыхся ў нашым распараджэнні міжнародных платформах уздымаем пытанне правоў чалавека ў Беларусі.

Я хацеў бы пажадаць вам усім поспеху. Дзякую.

# Асоба і свядомасць нацыі

***Вось і закончыўся чарговы нобелеўскі тыдзень. Ужо доўгі час, штогод, ён трымае ў напрузе і надзеі даволі вялікую колькасць людзей розных краін. І ўсе мараць, каб іх зямляк атрымаў званне нобелеўскага лаўрэата. Бо яно яшчэ ў большай ступені чым іншыя званні належыць не толькі яго ўладальніку, але і цэламу народу. І ёсць прадметам гонару усёй нацыі.***

У гэтым спаборніцтве за Нобеля няма бачнай перамогі. Затое тут кожны заўзятар, які хоць крыху цікавіцца гэтым працэсам, не толькі прыхільнік або антыпод канкрэтнага прэтэндэнта на Нобеля, але і кваліфікаваны суддзя. Суддзя, ад якога нічога не залежыць, але які мае кожны раз сваё ўстойлівае меркаванне пра тое, ці насам рэч гэтым разам нобелеўская камісія хоць прыблізна выканала запавет нябожчыка Альфрэда.

Беларусы таксама ўжо не першы раз уважліва і з надзеяй сочаць за гэтым закулісным шоу. Такія намінацыі як фізіка, хімія ці медыцына нас мала цікавяць. Дастаткова зайсці ў хоць якую неспецыялізаваную паліклініку, каб зразумець, што даваць нам узнагароды ў галіне медыцыны, гэта здзек над медыцынай. Ну а самамэта камерцыйнага набору студэнтаў з Азіі ў беларускія ВНУ перакрэслівае ўсе надзеі на развіццё сапраўднай навукі, і яскрава паказвае, якое да яе ў нашага кіраўніцтва стаўленне. Таму калі ў Беларусі ўзнікне геній-самародак фізік, то яго або затопчуць па месцы працы, або ён атрымае прэстыжную ўзнагароду ў якасці грамадзяніна другой краіны.

Іншая справа літаратура, або прэмія міру. Тут мы ўжо не першы год фігуруем. У першай намінацыі нас прадстаўляла пісьменніца Святлана Алексіевіч. У другой праваабаронца, і таксама пісьменнік Алесь Бяляцкі. Людзі гэта даволі вядомыя. Калі ў гуглі набраць пабеларуску слова Святлана, то першым працягам вылазіць надпіс Алексіевіч. Ну а калі набраць Алесь, то як працяг бачым слова Бяляцкі. Зрэшты, калі слова Алесь набраць пераключыўшыся на рускую мову, або па-ангельску, то працягам усядно будзе Бяляцкі.

Іншая справа з Алексіевіч. У



рускай і ангельскай версіях яе апярэджваюць другія Святланы. Хоць піша яна па-руску, а жыве ў Еўропе.

Вось і ў бурных дыскусіях на сацыяльных сетках, якія разгарнуліся вакол яе кандыдатуры, найбольш абмяркоўвалі моўны аспект. Ці можа рускамоўны аўтар прадстаўляць беларускую літаратуру і, адпаведна, культуру? І вельмі багата рэспандэнтаў сказалі што не. Маўляў, гэта будзе толькі яе асабістая прэмія. Калі будзе. Мажліва, яна як асоба яе заслугоўвае сваім талентам і працавітасцю. Але мы, нацыя, не хочам лічым гэту прэмію сваёй. Бо нам трэба не беларуская прапіска, а беларуская творчасць.

Зусім іншы характар набыло абмеркаванне кандыдатуры Бяляцкага. Тут пераважала думка, што калі нобелеўскі камітэт не дасць гэтую прэмію беларускаму праваабаронцу, то гэта недасведчанасць самога камітэту. Бо каго ж тады ўзнагароджваць, як не Бяляцкага!

Як не парадаксальна гэта гучыць, але на гэтым прыкладзе бачна, што беларусы, прынамсі актыўная частка, пасля незразумелага перапынку зноў пачынаюць заяўляць пра сябе як пра самадастатковую, цалкам сфармаваную старадаўнюю нацыю. Мы ўжо не цешымся як дзеці сусветнаму прызнанню тых прадстаўнікоў свайго народу, да якіх маем заўвагі. І не шукаем адабрэння і пахвалы іншых, як школьнікі сярэдніх класаў. Мы ўжо самыя сабе надаём права даваць высокую адзнаку тым, каго хочам узвялічыць. А калі хтосьці іншы іх недастаткова заўважыў, то гэта праблема кагосьці, а не наша. Мы абыдземся і без Нобеля. Але не абыдземся без Бяляцкіх. Бо да нас зноў дайшло, што Бацькаўшчына гэта не толькі тэрыторыя, як думаюць захопнікі і марыянеткавыя рэжымы, але і сума подзвігаў і здзяйсненняў лепшых прадстаўнікоў нашага народу, перамножаная на нацыянальную свядомасць.

Гэтым годам беларусы Нобеля зноў не атрымалі. Але мы, беларуская нацыя, свайго Нобеля Алесю Бяляцкаму ўжо далі. Мы яго дзейнасць, і яго ахвяру ацанілі належным чынам. Ну а нобелеўскі камітэт яшчэ не згубіў апошняга шанцу рэабілітавацца ў нашых вачах. Пачакаем наступнага году.

*Віктар Сазонаў*

# Каляндар памятных і круглых датаў Гарадзеншчыны на лістапад 2012 году

**1 лістапада**

*У лацінскім абрадзе сьвята Усіх Сьвятых.*

*80 гадоў таму (1933) – У в. Варакомшчына (Дзятлаўскі р-н) нарадзіўся Вячаслаў Адамчык, беларускі пісьменьнік.*

*70 гадоў таму (1943) – На Дзісеншчыне фашыстамі расстраляны Адам Дасюкевіч, беларускі грамадзка-культурны дзеяч, журналіст. Нараджэнец в. Копцевічы (Смургонскі р-н).*

**2 лістапада**

*Дзяды, дзень памінаньня памерлых.*

**4 лістапада**

*20 гадоў таму (1993) – Памёр Раман Лецка, беларускі краязнавец, калекцыянер, вязень савецкіх канцлягераў. Нараджэнец в. Вярбіцы (Наваградзкі р-н).*



**7 лістапада**

*115 гадоў таму (1898) – У в. Дольная Сьвіслач (Гарадзенскі р-н) нарадзіўся Клімент Якаўчык (загінуў у 1941-ым на фронце), беларуска-расейскі пісьменьнік.*

**8 лістапада**

*110 гадоў таму (1903) – У в. Мінявічы (Мастоўскі р-н) нарадзіўся Міхась Явар (сапр. Карась), беларускі паэт, удзельнік Грамады, ТБШ.*

*40 гадоў таму (1973) – Памёр Аляксандар Жукоўскі (нар. у 1926 у в. Залесьсе, Слонімскі р-н), удзельнік слонімскай падпольнай патрыятычнай арганізацыі "Чайка", вязень савецкіх турмаў і канцлягеру. Пахаваны ў в. Залесьсе (Слонімскі р-н).*

**11 лістапада**

*110 гадоў таму (1903) – У мяст. Мір (Карэліцкі р-н) нарадзіўся Аляксандар Ільінскі, беларускі артыст тэатру.*

**15 лістапада**

*120 гадоў таму (1893) – У в. Чухны (Смургонскі р-н) нарадзіўся Францішак Чарняўскі, беларускі каталіцкі сьвятар, рэлігійна-асьветніцкі публіцыст, выдавец, дзеяч эміграцыі (Францыя, Бельгія, ЗША). Скончыў школу ў Ашмяне.*

**16 лістапада**

*Дзень Маці Божай Вострабрамскай – апякункі Беларусі.*

*125 гадоў таму (1888) – У в. Шурычы (Сьвіслацкі р-н) нарадзіўся (паводле інш. зьв. 16 сьнеж.) Вінцэнт Гадлеўскі, беларускі рымска-каталіцкі сьвятар, ідэоляг беларускага нацыянальнага руху.*

**17 лістапада**

*120 гадоў таму (1893) – У Дзьвінску (цяпер Латвія) нарадзіўся Кастусь Езавітаў, дзеяч беларускага нацыянальна-дзяржаўнага адраджэньня, публіцыст, перакладнік, педагог, гісторык. Пэўны час (канец 1918-пач. 1919) дзеіў у Гародні.*

**20 лістапада**

*365 гадоў таму (1648) – Каралём Рэчы Паспалітай і Вялікім князем ВКЛ абраны Ян Казімер (кіраваў да 1668).*

*15 гадоў таму (1998) – Памерла Яўгенія Шастак, беларуская грамадзкая дзеячка, лекарка, вязень ГУЛАГУ. Нараджэнка в. Запольле (Наваградзкі р-н).*

**25 лістапада**

*10 гадоў таму (2003) – Памерла Людміла Махнюк (дзявочае Каліноўская), дзеячка беларускага культурніцкага руху ў эміграцыі (ЗША). Нараджэнка мяст. Скідаль (Гарадзенскі р-н). Пахавана на беларускіх могілках у Саўт-Рывэры.*

**27 лістапада**

*110 гадоў таму (1903) – У в. Сакаўцы (Івацэвіцкі р-н) нарадзіўся Піліп Пестрак, беларускі літаратар, дзеяч КПЗБ. У 1927-29 жыў у Слоніме. Быў зьняволены польскімі ўладамі ў Гарадзенскую турму.*

*75 гадоў таму (1938) – НКВД расстраляны Сымон Рак-Міхайлоўскі, беларускі грамадзка-палітычны дзеяч, сябра Рады БНР, публіцыст, заснавальнік і дырэктар настаўніцкай семінарыі ў Барунах (у 1920-22).*

**28 лістапада**

*90 гадоў таму (1923) – Было створана беларускае літаратурнае аб'яднаньне "Маладняк" (дзеіла да 1932).*

**29 лістапада**

*75 гадоў таму (1938) – У Менску (ці ў Маскве) НКВД расстраляны Браніслаў Тарашкевіч, беларускі грамадзка-палітычны і асьветны дзеяч, мовазнавец, публіцыст, перакладнік, літаратуразнавец.*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па ўсёй Беларусі вы можаце атрымаць на сайце*

**www. spring96.org**




*На сайце*

**www.palitviazni.info**

*вы таксама можаце атрымаць інфармацыю пра палітычных зняволеных у Беларусі*

*Больш падрабязную праваабарончую інфармацыю па Гарадзеншчыне вы можаце атрымаць на сайце*

**www.harodniaspring.org**



*Праваабарончая інфармацыя і іншых рэгіёнаў Беларусі:*

**Берасце - www.brestspring.org**
**Віцебск - www.vitebskspring.org**
**Гомель - www.gomelspring.org**
**Магілёў - www.mahilyowspring.org**

Гарадзенскі праваабарончы
інфармацыйна-аналітычны
бюлетэнь «Прэзумпцыя»
выходзіць 1 раз у месяц
наклад 299 асобнікаў
для нутранога карыстаньня

падрыхтаваны да друку:
кастрычнік 2013
e-mail:prezumpcyja@gmail.com
распаўсюджваецца задарма
пры передруку спасылка
абавязковая

